Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№43 лістапад 2014

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

## Беларус Міхаіл Жызнеўскі, які загінуў на Майдане, пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Героя Нябеснай сотні.



**21 лістапада, у гадавіну пачатку Еўрамайдану, прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка падпісаў указ аб прысваенні загінулым удзельнікам пратэсту („Нябесная сотня") звання Героя Украіны.**

**Прэзідэнт Украіны адзначыў, што згодна з заканадаўствам, гэтае званне нельга прысвоіць траім загінулым замежнікам, таму яны будуць узнагароджаны ордэнамі Героя Нябеснай сотні.**

**Міхаілу Жызнеўскаму было 25 гадоў.**

## Вольгу Крапоціну аштрафавалі на 30 базавых велічынь за ўлёткі



18 лістапада ў судзе Ленінскага раёна Гродна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы гарадзенкі Вольгі Крапоцінай, яка была затрыманая 19 верасня з улёткамі ў падтрымку Украіны. Суддзя Дзмітрый Бубенчык прызнаў грамадскую актывістку вінаватай у "незаконным вырабе і распаўсюдзе друкаванай прадукцыі" (арт. 22.9 ч.2 КаАП) і аштрафаваў на 30 базавых велічынь – 4 мільёны 500 тысяч рублёў.

19-га верасня міліцыя затрымала Вольгу Крапоціну ў цэнтры гораду і забрала ў яе 17 улётак з тэкстам "Верните Крым! Руки прочь от Украины" і "Ганьба здраднікам Радзімы з "трыкалорам" у зубах. Пуцін вам далонь пацісне, як уздыме на штыках!". Крапоціну тады трымалі пару гадзін у РАУСе, а потым па месцы яе жыхарства правялі ператрус. 11 лістапада быў складзены пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне.

## Пераследы за Дзень памяці паўстанцаў ў Свіслачы

Свіслацкі грамадскі актывіст Юрый Глебік аштрафаваны мясцовым раённым судом за ўдзел у традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 году, што праходзіць штогод у Свіслачы ў колішнім родавым маёнтку роду Каліноўскіх Якушоўцы. За ўдзел нібыта ў "несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве" Ю.Глебіка аштрафавалі на 10 базавых велічынь.



25 лістапада ў Гродна прайшлі адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да чатырох чалавек, якія прысутнічалі ў Свіслачы 26 кастрычніка на традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 году. Суддзя Алена Пятрова па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве аштрафавала публіцыста і праваабаронцу Уладзіміра Хільмановіча і актывіста партыі АГП Ежы Грыгенчу на 35 базавых велічынь кожнага, а журналіста Радыё Свабода Міхаіла Карневіча і актывіста партыі АГП Віталя Лопасава на 15 базавых велічынь.

Фактычна ўсе былі асуджаныя на падставе таго, што яны прысутнічалі ў Свіслачы ў гэты дзень.

## Гарадзенскі праваабаронца Уладзімір Хільмановіч - адзін з пераможцаў конкурсу БАЖ "Абяры жыццё"



Журналіст Беларускага Радыё Рацыя, праваабаронца з "Вясны" Уладзімір Хільмановіч стаў адным з пераможцаў конкурсу „Абяры жыццё", які праводзіць Беларуская асацыяцыя журналістаў. Конкурс прысвечаны тэме смяротнага пакарання.

Узнагароды былі ўручаны падчас міжнароднай канферэцыі „Несмяротнае пакаранне: вытокі адказнай пазіцыі".

Па словах Уладзіміра Хільмановіча, звестка аб тым, што ён стаў лаўрэатам конкурсу, выклікалі супярэчлівыя пачуцці:

- З аднаго боку прыемна, калі тваю працу журналісцкую, публіцыстычную адзначаюць. А з іншага боку – вельмі сумная намінацыя. Хочацца пажадаць, каб мы былі апошнімі намінантамі па гэтай тэме, каб праблема смяротнага пакарання, дай Бог, была знятая праз год, і не было бы конкурсу на такую тэматыку.

Уладзімір Хільмановіч працяглы час займаецца праблемай смяротнага пакарання. На конкурс быў прадстаўлены артыкул „Права на жыццё", надрукаваны ў Беластоцкай газеце „Ніва" і ў персанальным блогу на сайце Беларускага Радыё Рацыя. Матэрыял быў прысвечаны справе Паўла Селюна, які за двайное забойства быў асуджаны да выключнай меры пакарання і расстраляны ў красавіку гэтага году.

# “Тунеядцы” і дармаеды

***А я дык нават узрадаваўся, як даведаўся, што наша краіна абвясціла новы этап барацьбы з чарговай катэгорыяй сваіх грамадзянаў. На гэты раз бой распачаты з дармаедамі. Ці як іх называюць самыя змагары з гэтай з’явай – з “тунеядцамі”.***

Тут відавочна чарговае непаразуменне ў глыбінным значэнні слоў, звязанае ўсё з тым жа двухмоўем. Бо калі заканадаўцы, сённяшнія беларускія рускамоўныя парламентарыі, статус якіх ставіць пад сумнеў уся тая частка планеты якая сапраўды мае даўнішнія традыцыі парламентарызму ўжываюць паняцце “тунеядзец”, яны аніяк не адносяць яго да сябе любімых. Бо афіцыйна яны нібыта маюць легальнае месца працы і заробку. А вось карысць яны прыносяць свайму народу на гэтым месцы, ці шкоду, гэта ўжо справа на іх думку дзесятая.

“Тунеядцамі” яны лічаць не сябе, а тую частку сваіх суайчыннікаў, якія гарбацяць на свае сем’і там, дзе могуць знайсці больш-менш прыстойны заробак не ўблытваючы сваё сумленне ў фальш і падман выбарчых кампаній. І тут нашым законнікам вельмі спатрэбілася іх любае двухмоўе, ці калі быць больш дакладным, то поўнае выцясненне беларускай мовы з законатворчага працэсу. Бо на беларускую мову слова “тунеядзец” перакладаецца як дармаед. А ці можна назваць дармаедам чалавека, які ўвесь час цяжка працуе на свой хлеб, корміць і апранае свае сем’і, дапамагае выжыць сваім блізкім? А вось “тунеядцам” можна. Корміш сям’ю ці не, а не маеш афіцыйнай па закону, і прыгоннай па паняццю працы, то ты ўжо і “тунеядзец”.

Праўда, пастараўшыся, можна развагі павярнуць так, што пад паняцце “дармаед” хіба што больш падпадаюць акурат тыя, хто седзячы ў цёплых парламенцкіх крэслах і атрымліваючы някепскія дзяржаўныя заробкі так і не змаглі прыдумаць што-небудзь больш-менш дзеючае для папаўнення бюджэту, акрамя барацьбы з “тунеядствам”. А яшчэ ў дармаеды можна было б залічыць і тых гора-эканамістаў з міністэрскімі заробкамі, хто такія ідэі падкідвае выканаўчай уладзе, распісваючыся тым самым у сваім бяссіллі і канстатуючы наглядна факт, што ў іх галовах надышоў крызіс хоць якіх-небудзь адэкватных ідэй. Але хто з іх нашы развažанні бярэ да ўвагі.




Затое ў апазіцыі нарэшце з’явіцца магчымасць пагаварыць з сваім народам. Ура, віват і яшчэ раз ура! А то як хадзілі апазіцыянеры па хатах, тлумачылі важнасць наведаць выбарчыя дзяльніцы і пракантраляваць справядлівасць выбараў, то некаторыя іх суайчыннікі, ладуючы свае машыны кантрабандай ці збіраючыся на будоўлю за мяжу казалі, што ім грошы зарабляць трэба. І што яны не збіраюцца губляць свой час каб не толькі на выбары хадзіць, але і слухаць апазіцыйных агітатараў. Вось цяпер паслухаць прыйдзецца. Бо пад панятак “тунеядцы” патрапяць і тыя, і другія. І сядзець хіба што будуць у адной камеры. Ура яшчэ раз. Нарэшце апазіцыя з народам.

Ну а доўгімі зімнімі начамі апазіцыянеры нарэшце атрымаюць магчымасць распавесці сваім суайчыннікам, якім чынам тыя сталі “тунеядцамі”. І ў чым розніца паміж “тунеядцам” і дармаедам. І пра тое, што на заробленыя за мяжой грошы, нашы “тунеядцы” далі сваёй краіне значна больш прыбытак, чым тыя, хто іх арыштоўваў, судзіў і садзіў. Бо будавалі на тыя грошы хаты сваім дзеткам, куплялі беларускі цэмент і цэглу, плацілі страшэнныя кошты ў казну за растаможку замежных машын, набывалі для сваіх дзетак у беларускіх крамах хлеб, яйкі, малако а бывала і мяса. А для сябе і акцызную гарэлачку, каб седзячы за кілішкам з такім жа працавітым, але мала палітычна актыўным сябруком зацягнуцца зноў жа акцызнай і звышпрыбытковай для беларускага бюджэту цыгарэтай паразважаць пра свой гаротны лёс ды параіцца, куды яшчэ можна рвануць на годзік паўтары, каб не бачачы свету белага папрацаваць сваім мазалём ды зарабіць яшчэ крыху. Зарабіць каб зноў аддаць тыя грошыкі у беларускі дзяржаўны ўніверсітэт за вучобу любай дачушкі ці сына. Каб тыя ў людзі выбіліся. Ці хаця б каб сталі такімі ж “тунеядцамі” як бацька. Але не дай Божа не такімі, як тыя, па чыёй міласці яны нікім іншым, акрамя як “тунеядцамі” стаць не могуць.

*Віктар Сазонаў*

# Прэзідэнт Украіны сустрэўся з бацькамі Міхаіла Жызнеўскага

Маці Міхала Жызнеўскага спадзяецца на тое, што прэзідэнт Украіны вырашыць пытанне з уганараваннем яе сына ўзнагародай „Герой Украіны". Падчас



сустрэчы з кіраўнікам украінскай дзяржавы ў Ніны Васільеўны Жызнеўскай склалася ўражанне, што Пятро Парашэнка блізка ўспрыняў трагедыю яе сям'і.

- ¨н сустрэў нас вельмі цёпла. І ён сказаў, што Міша пакутнік за свабоду Украіны, і што ён будзе ў Радзе узнімаць пытанне, каб змяніць "літару" закона і каб Мішы прысвоіць званне Героя Украіны. Я яму расказала, што гэтае званне Героя Мішы патрэбна для таго, каб у нас у Беларусі закрыць раты тым беларусам, якія абражаюць Мішу, называюць "нацыстам", называюць "бандытам", які стаяў за грошы на Майдане.

У пачатку гэтага года гамяльчук Міхал Жызнеўскі загінуў адным з першых падчас акцый пратэсту на вуліцы Грушэўскага ў Кіеве. Беларуса пасмяротна ўзнагародзілі Ордэнам Нябеснай Сотні.

* * *

Пятро Парашэнка сустрэўся з бацькамі Міхаіла Жызнеўскага – Нінай і Міхаілам Жызнеўскімі. Прэзідэнт Украіны запэўніў, што будзе шукаць заканадаўчую магчымасць, каб і Міхаіла Жызнеўскага, як і загінулых на Майдане ўкраінцаў, уганараваць адпаведным чынам.

„Падчас сустрэчы з бацькамі Міхаіла Жызнеўскага перадаў ім ордэн Герояў Нябеснай Сотні іх сына.

Удзячны Вам за тое, што выхавалі героя, памяць пра якога назаўжды застанецца ў сэрцах украінцаў. Я раблю ўсё магчымае, каб Міхаіл атрымаў званне Героя Украіны, аднак зараз закон не дазваляе ўручаць гэтую ўзнагароду іншаземцам, і патрэбна адпаведнае рашэнне Вярхоўнай Рады. Упэўнены, што Парламент ухваліць неабходныя змены ў заканадаўства", – напісаў у сваім Facebook Прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка.

Бацькі Жызнеўскага знаходзіліся ў Кіеве. Яны прысутнічалі на ўсталяванні помніка сыну на вуліцы Грушэўскага ў Кіеве, непадалёк ад месца, дзе Міхаіл загінуў. Бацькі звярнуліся з заклікам да прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі зрабіць выключэнне і даць іх сыну званне Героя Украіны, каб і ў Беларусі нарэшце зразумелі, што сын ахвяраваў жыццё за свабоду і незалежнасць украінскай дзяржавы.

# Івонка Сурвіла звярнулася да Пятра Парашэнкі



Яна просіць надаць загінуламу на Майдане Міхаілу Жызнеўскаму званне Героя Украіны.

"Магчыма, Вам вядома, што ў Беларусі ладзяцца акцыі ў падтрымку Украіны, іх арганізатары ды ўдзельнікі расплачваюцца за гэта арыштамі і штрафамі. Аднак самую вялікую плату заплаціў сваім жыццём грамадзянін Беларусі Міхаіл Жызнеўскі, які загінуў на Майдане ў ліку Герояў „Нябеснай Сотні". Гэтым людзям пасмяротна надалі званне Героя Украіны — аднак у іх ліку няма беларуса Міхаіла Жызнеўскага", – напісала Івонка Сурвіла ў сваім лісце.

# У Кіеве адкрылі помнік Міхаілу Жызнеўскаму

Беларуса Міхала Жызнеўскага ўшанавалі ордэнам Героя Нябеснай Сотні, як і двух іншых замежнікаў, якія загінулі на Майдане. З Кіева паведамляе наша карэспандэнтка Вольга Чарных:

- У Кіеве ўшанавалі памяць беларуса, які загінуў падчас трагічных падзеяў на Майдане Незалежнасці, Міхаіла Жызнеўскага. 26-га лістапада яму быў усталяваны мемарыял на тым месцы, дзе ён загінуў. Таксама бацькі Жызнеўскага прыехалі ў Кіеў. Нагодай паслужыла рашэнне Пятра Парашэнкі пра наданне статусу героя Украіны ўсім героям Нябеснай сотні, акрамя грамадзянаў іншых краінаў, такіх, як Міхаіл Жызнеўскі. Грамадская арганізацыя, якая займалася наданнем статусу герояў Украіны ўсім загінулым з Нябеснай сотні, запэўніла бацькоў Міхаіла Жызнеўскага, што будуць прадпрынятыя ўсе крокі, каб імя Міхаіла знайшлося на лісце Герояў Украіны, і Пётр Парашэнка падпісаў гэты Указ. Будзем спадзявацца, што такім чынам гэтае пытанне будзе вырашанае.




Мемарыял Герою Нябеснай сотні, беларусу Міхаілу Жызнеўскі – адкрылі ва ўкраінскай сталіцы, на вуліцы Грушэўскага. Пра гэта паведаміў украінскі „5 канал”.

На адкрыццё з Беларусі прыехалі бацькі загінулага і мясцовыя актывісты. Яны ўсклалі кветкі да мемарыяла і правялі паніхіду. Міхаіл Жызнеўскі адным з першых загінуў падчас Рэвалюцыі годнасці. Яго забілі 22 студзеня ў час акцый пратэсту на вуліцы Грушэўскага. Бацькі Героя распавядаюць, што сын хаваў ад іх удзел у пратэстах. Цяпер больш за ўсё жадаюць, каб сын атрымаў званне Героя Украіны. Яго на мінулым тыдні Прэзідэнт прысвоіў ўсім Героям Нябеснай сотні.

Аднак Міхаіла Жызнеўскі ў гэтым спісе не было, бо паводле ўкраінскага заканадаўства званне Героя прысвойваюць толькі грамадзянам Украіны.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла звярнулася да прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі. Яна просіць надаць загінуламу на Майдане Міхаілу Жызнеўскаму званне Героя Украіны.

# Беларус Міхаіл Жызнеўскі адзін з забітых у Кіеве паўстанцаў Майдана



**Беларус Міхаіл Міхайлавіч Жызнеўскі стаў трэцяй ахвярай сутыкненняў на вуліцы Грушаўскай у Кіеве. ¨н атрымаў агнястрэльнае раненне ў сэрца.**

**Міхаіл Жызнеўскі нарадзіўся 26 студзеня 1988 года, ён не дажыў некалькіх дзён да свайго 26-годдзя.**

**Жызнеўскі ўваходзіў у каманду Віталя Клічка, але пры гэтым быў актывістам украінскай нацыяналістычнай арганізацыі УНА-УНСО. Меў мянушку «Локі».**

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ГЕРОЮ.**

# “Рынкавы сацыялізм”

***Ва ўніверсітэце нам выкладалі прадмет пад назвай “палітэканомія”. Кваліфікаваны і цікавы, светлай памяці, выкладнік стараўся давесці нам законы, паводле якіх развіваецца сусветная і наша, тады яшчэ сацыялістычная, гаспадарка. Разумелі мы з таго няшмат, тым больш, што за мяжу тады яшчэ амаль ніхто не ездзіў, а тое, што адбывалася ў савецкай сістэме, увогуле мала хто разумеў. Які лад тады будавалі ў дзяржаве – таксама ўяўлялася неяк цьмяна. Вось пры Хрушчову дэкляраваўся камунізм – гэтая светлая будучыня, якая павінна была ўсіх заліць шчодрымі промнямі дабрабыту і ўсеагульнай радасці. Потым, праўда, выявілася, што замест яркага камунізму надышоў беспрасветны “застой”.***

Міхаіл Гарбачоў задумаў перабудову і ўкараняў тэрмін “сацыялізм з чалавечым тварам”. З гэтага ў выніку хоць нешта талковае атрымалася – пачаліся развівацца дробнае прадпрымальніцтва, стварацца нейкія кааператывы, людзі сталі адчуваць сябе гаспадарамі. Але тады яшчэ не было панятку “рынкавы сацыялізм”, які вынайшаў Вялікі Правадыр, Ідэолаг і Светач найноўшага часу. Гэта таксама зразумелі не ўсе і не адразу. І толькі ў больш сталыя гады мы пачынаем разумець усю глыбіню гэтай стратэгічнай задумы мысляра. Дапамагаюць у асэнсаванні велічы задумы шматлікія маленькія ідэолагі, якія ня толькі ў тэлевізіі, але і на кожным прадпрыемстве, у кожнай установе.



Што такое “рынкавы сацыялізм”? Гэта калі ўсім загадана шукаць альтэрнатыўныя крыніцы паліва і гэтыя ўсе пачынаюць выразаць здаровыя дрэвы – паркі, прысады абапал дарогаў, старыя гарадскія насаджэнні. Нічога, што пры тым на спілаванне, разразанне і перавозку ўжо дроваў патрацяцца куды большыя сродкі, чым эфект ад спальвання гэтых дроваў. Нічога, што засеяныя палеткі ўжо ня будуць абароненыя дрэвамі ад шкодных аўтамабільных выкідаў. Нічога, што вырасце колькасць аўтамабільных аварый зімой, бо страчваюцца арыенціры, а дарога нагадвае заснежаную пустыню. Рынкавы сацыялізм – гэта калі па ўсё краіны будуюцца вялізныя, дарагія ў эксплуатацыі, лядовыя палацы, але гуляць у хакей няма каму. Гэта калі усе школы абносяцца, нібыта турэмная зона, высокімі і дарагімі металічнымі платамі і ў выходныя дзецям ня проста патрапіць на школьныя стадыёны і пляцоўкі, а састарэлым людзям трэба абыходзіць гэтыя “рэжымныя аб’екты” амаль кіламетар. Відаць, гэта і ёсць сапраўднае дбанне пра здароўе нацыі.

Што такое “рынкавы сацыялізм”? Гэта калі нядаўні старшыня нацыянальнага банку краіны, а цяпер гэткі “усесаюзны стараста” а-ля Калінін заяўляе, што зберажэнні свае трэба падзяляць на тры роўныя часткі і найлепш захоўваць у далярах, еўра і расейскіх рублях. О, santa simplicitas! І гэта ў дзяржаве, дзе ўсе мільянеры па колькасці нулёў на папяровых купюрах і няма манетаў (такая дзяржава на кантыненце толькі адна!). Тут не да дробязі. Вялікая ідэя пабудовы “рынкавага сацыялізму” натхняе незлічоныя народныя масы на новыя працоўныя подзвігі. А яго айцоў на новыя вынаходніцтвы. Вось зараз сур’ёзна возьмуцца за “тунеядцев”. Хоць, здаецца, дзесьці гэта ўжо было: “продразвёрстка”, “продналог”, “экпрапрыяцыя”, “раскулачванне”. Але развіваць “творчую спадчыну” заўсёды ёсць куды. Асабліва калі “распячатаць кіпучыя гейзеры народнай творчасці”…

Грамадзяніна іншай краіны “рынкавы сацыялізм” сустракае ўжо на мяжы ў выглядзе платнага туалета. ¨н яшчэ шмат разоў сутыкнецца з гэтай з’явай – калі ў той жа прыбіральні атрымае заранёў адарваны нармаваны кавалак туалетнай паперы, калі ўбачыць зачыненую “на абед” у абед кавярню, калі ў рэстарацыі ўгледзіць разрэзаныя на чатыры часткі сурвэткі, а цукар у гарбату яму засыплюць адразу – столькі, колькі “паложана”. “Эканоміка павінна быць эканомнай!” – гэты стары класічны лозунг прапісаны ў кожнай з’яве дзяржавы, якая будуе “рынкавы сацыялізм”.

Можна яшчэ доўга прыводзіць такія прыклады. Многія шчаслівыя ў гэтай дзяржаве “рынкавага сацыялізму”. Аднак, імкнуцца яшчэ ёсць куды. Вось у Паўночнай Карэі намнога больш шчаслівых людзей. І міжволі думаецца, што ўсё ж ідэя “чучхэ” мацней за ідэю “рынкавага сацыялізму”.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на снежань 2014 году

**1 сьнежня**

95 гадоў таму (1919) – Памёр Вандалін Шукевіч беларускі археолаг, этнограф, калекцыянер. Пахаваны ў роднай в. Нача (Вараноўскі р-н).

25 гадоў таму (1989) – У Гародні прайшла ўстаноўчая канферэнцыя гарадзкога аддзялення Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

**2 сьнежня**

135 гадоў таму (1879) – У Шчучыне нарадзіўся Фэлікс Стацкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Грамады і ТБШ.



**3 сьнежня**

200 гадоў таму (1814) – Нарадзіўся (на Меншчыне) Восіп Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледнік Японіі і Кітаю, натураліст. Жыў у в. Малі (Астравецкі р-н).

**6 сьнежня**

95 гадоў таму (1919) – У сваім маёнтку пад Харкавам бандытамі забіты Аляксандар Булатовіч, падарожнік, дасьледнік Усходняй Афрыкі, дыплямат, праваслаўны іераманах, які паходзіў з Гарадзеншчыны.

**7 сьнежня**

190 гадоў таму (1824) – У маёнтку Тупальшчына (Смургонскі р-н) нарадзіўся Юльян Бакшанскі, удзельнік вызвольнага руху, камандзір паўстанцкага атраду ў 1863 годзе, публіцыст.

**9 сьнежня**

40 гадоў таму (1974) – Памерла Юлія Бібіла, беларуская бібліёграфка, майстарка мастацкага ткацтва. Нараджэнка мяст. Поразава (Сьвіслацкі р-н).

**11 сьнежня**

135 гадоў таму (1879) – У Варшаве памёр Адам Сузін, удзельнік вызвольнага руху, падарожнік. У 1819 скончыў Гарадзенскую гімназію.

**14 сьнежня**

85 гадоў таму (1929) – Польскія ўлады забаранілі на тэрыторыі Заходняй Беларусі народны гімн "Ад веку мы спалі". У хуткім часе ён быў забаронены і ў Савецкай Беларусі.

**15 сьнежня**

40 гадоў таму (1994) – У Берасьці памёр Уладзімір Калесьнік, беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік. Нараджэнец в. Сіняўская Слабада (Карэліцкі р-н). Пахаваны ў Берасьці.

**16 сьнежня**

25 гадоў таму (1989) – У Лідзе прайшла ўстаноўчая канферэнцыя гарадзкога аддзялення Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

**17 сьнежня**

165 гадоў таму (1849) – У Альбярціне (пад Слонімам) нарадзіўся Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат, калекцыянер.

**18 сьнежня**

80 гадоў таму (1934) – У Вільні памёр Альбін Стаповіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, кампазітар, музычны педагог, публіцыст. Нараджэнец в. Барані (Астравецкі р-н). Пахаваны на могілках Росы.

**19 сьнежня**

50 гадоў таму (1964) – У вёсцы Лаша (Гарадзенскі р-н) адчынены мемарыяльны музей Яўхіма Карскага.

**22 сьнежня**

90 гадоў таму (1924) – На Наваградчыне нарадзіўся Міхась Кожыч, беларускі настаўнік, кіраўнік арганізацыйнага аддзелу Саюзу Вызвалення Беларусі, вязень савецкіх канцлягераў. Жыў і працаваў у Любчы, Наваградку, Поўберагу.

**24 сьнежня**

205 гадоў таму (1809) – У Вільні памёр Канстанцін Атасельскі (нар. каля 1739 г. у Львове), тэатральны мастак, майстар дэкаратыўнага жывапісу. Працаваў у Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н).

5 гадоў таму (2009) – У Гародні памёр Георгі Тарасевіч, беларускі архітэктар, грамадзкі актывіст. Нараджэнец в. Пілкі (Мастоўскі р-н). Пахаваны ў Гародні.

**25 сьнежня**

Каляды (Божае Нараджэньне) паводле грыгарыянскага календара.

170 гадоў таму (1844) – Памёр Адам Храптовіч, асьветнік, удзельнік паўстаньня 1794, мецэнат мастацтваў і навукі. Заснаваў у Шчорсах буйную пачатковую школу.

95 гадоў таму (1919) – У в. Дзетамля (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Кастусь Мярляк, беларускі грамадзка-культурны-рэлігійны дзеяч, дзеяч БНР у эміграцыі (Італія, Аргентына, ЗША).

**27 сьнежня**

155 гадоў таму (1859) – У Беластоку нарадзіўся Лазар Замэнгоф, лекар, вынаходнік мовы эсперанта. Пэўны час жыў у Гародні.

90 гадоў таму (1924) – Памёр Леў Бакст (Розэнберг), парыжскі жывапісец і графік, тэатральны мастак, заканадаўца моды. Нараджэнец Гародні.

**30 сьнежня**

135 гадоў таму (1879) – У Гародні нарадзіўся Якуба Чэхаўскі, беларускі атлет і барэц.

130 гадоў таму (1884) – Адкрыты рух па чыгунцы Вільня-Ліда-Лунінец.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыё-станцыі "Радыё Рацыя" - праграма "Людзьмі звацца!", якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце* **www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце* **www. spring96.org**




*На сайце* **www.palitviazni.info** *вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце* **www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя з іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
лістапад 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

